№ 127 (1192)
Аўторак, 17 ліпеня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

# Народная Воля

**Надвор'е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, у Брэсцкай і Гродзенскай абласцях магчымы кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер паўднёва-заходні, 7—9 м/с, парывы да 15 м/с. Тэмпература паветра ў Брэсце, Віцебске, Гродне — +28...+30, Гомелі, Мінску, Магілёве — +27...+29.

Заўтра па ўсёй тэрыторыі краіны — кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер паўночна-заходні, 7—9 м/с, пры навальніцах парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра — +21...+26.



# МАТЬ ЖДЕТ СЫНА



Ульяна Григорьевна ЗАХАРЕНКО ждет своего похищенного сына Юрия

**800 дней**



Ксения Сидоровна КРАСОВСКАЯ ждет своего похищенного сына Анатолия

**668 дней**



Валентина Адамовна ГОНЧАР ждет своего похищенного сына Виктора

**668 дней**



Ольга Григорьевна ЗАВАДСКАЯ ждет своего похищенного сына Дмитрия

**372 дня**

ПУЛЬС

## “Архангельскія паветраныя лініі” працягваюць рамонт свайго авіяпарка ў Мінску

Расійская дзяржаўная авіякампанія “Архангельскія паветраныя лініі” (АПЛ) працягвае рамонт свайго парка самалётаў “ТУ-134" у Беларусі. Як паведамляе інфармацыйнае агенцтва "Расбалт", днямі ў Архангельску прызямліўся трэці па ліку лайнер, адрамантаваны на Мінскім авіярамонтным заводзе. Усяго ў 2001 годзе для расійскай паўночнай міжрэгіянальнай кампаніі ў Мінску будуць адрамантаваны 6 самалётаў.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Беларусь стала паўнапраўнай удзельніцай Гаагскай канферэнцыі

Завяршылася працэдура далучэння Беларусі да Гаагскай канферэнцыі міжнароднага прыватнага права. Як паведаміў БелаПАН прэс-сакратар МЗС Беларусі Павел Латушка, пасол Беларусі ў Каралеўстве Нідэрланды Уладзімір Герасімовіч уручыў прадстаўніку МЗС Нідэрландаў — краіны-дэпазітарыя —ратыфікацыйную грамату.

Такім чынам, Беларусь становіцца 53-й паўнапраўнай дзяржавай — членам Гаагскай канферэнцыі.

Гаагская канферэнцыя па міжнародным прыватным праве з'яўляецца міжурадавай арганізацыяй, мэта якой — ажыццяўленне работы па прагрэсіўнай уніфікацыі правіл міжнароднага прыватнага права.

**Андрэй АСМАЛОЎСКІ.**

## Беларусы возьмуць удзел у выставе моды ў Берліне

Маладыя беларускія дызайнеры, пераможцы розных конкурсаў авангарднай моды, прадставяць свае работы на выставе моды “Вялікі курфюрстэндам”, якая пройдзе 18 жніўня ў Берліне. Прадстаўнікі Беларусі адправяцца туды па запрашэнні Берлінскага цэнтра моды.

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Мінску мастацкі кіраўнік Цэнтра сучаснага стылю і моды “Universum models” Аляксандр Варламаў, берлінская выстава моды традыцыйна пройдзе на самым доўгім подыуме свету — больш за 1 кіламетр. Беларускія дызайнеры прадставяць 100 сваіх мадэлей, якія будуць дэманстраваць манекеншчыцы мінскага Цэнтра сучаснага стылю і моды.

Па словах Варламава, хаця цэнтр з'явіўся нядаўна, “за яго кошт” былі выраблены 23 калекцыі беларускіх мадэльераў. Сваёй галоўнай мэтай цэнтр бачыць падтрымку, у тым ліку фінансавую, маладых дызайнераў.

**Маша ПЯТРОВА.**

## Гран-пры фестывалю “Магутны Божа” атрымаў хор Беларускай акадэміі музыкі

Гран-пры 9-га Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі “Магутны Божа” у Магілёве атрымаў хор Беларускай акадэміі музыкі, які за сваю перамогу атрымае 1000 долараў ЗША.

Сярод харавых калектываў у розных намінацыях першыя месцы занялі: аматарскі хор з горада Торунь (Польшча), дзіцячы хор “Іскаркі” (Кіраўская вобласць Расіі) і прыходскі хор “Абуджэнне” (Мінск). У конкурсе вакалістаў удзельнічалі тры выканаўцы — з Мінска, Масквы і Санкт-Пецярбурга. Журы пад старшынствам народнага артыста СССР Віктара Роўды вырашыў не прысуджаць сярод іх першае месца. Мінчанка Святлана Мацыеўская заняла ў гэтым конкурсе трэцяе месца.

**Канстанцін УВАРАЎ.**





ЧУЛІ?

## Індыя закупіць партыю трактароў у Беларусі

Дэлегацыя індыйскай дзяржаўнай кампаніі “HMT (International) Limited” выказала зацікаўленасць у прадукцыі прадпрыемстваў трактарабудавання, станкабудавання, а таксама Мінскага гадзіннікавага завода.

Дэлегацыя кампаніі на працягу тыдня наведала мінскія трактарны, маторны і гадзіннікавы заводы, Мінскі завод шасцерань, а таксама тры станкабудаўнічыя заводы ў Віцебску.

“Мы ўражаны тым спектрам прадукцыі, што вырабляецца ў Беларусі, і ўжо намецілі некаторыя галіны для супрацоўніцтва, — заявіў БелаПАН генеральны менеджэр кампаніі па экспарце спадар М.Джаярам па выніках візіту. — У галіне трактарабудавання мы выбралі беларускі трактар мадэлі 592 і некаторыя іншыя мадэлі магутнасцю 80—90 конскіх сіл, якія могуць працаваць у Індыі. Для пачатку мы маем намер імпартаваць невялікую партыю трактароў, каб вывучыць попыт на індыйскім рынку; пры спрыяльнай кан'юнктуры ў далейшым мы плануем асвоіць іх вытворчасць у Індыі”.

Кампанія таксама мае намер вывучыць попыт на некаторыя віды беларускай станкабудаўнічай прадукцыі, якія не выпрабляюцца ў Індыі. Апрача таго, падчас візіту абмяркоўвалася магчымасць арганізацыі сумеснай зборкі гадзіннікаў з беларускім корпусам і індыйскім механізмам у Беларусі для наступнага сумеснага экспарту на рынкі Азіі і Блізкага Усходу.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Шаноўныя мінчане і госці сталіцы!

Ініцыятыўная група грамадзян па вылучэнні кандыдатам у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ **Зянона ПАЗЬНЯКА** паведамляе, што збор подпісаў у г.Мінску будзе адбывацца да 20 ліпеня бягучага года ў наступных месцах:

1. Станцыя метро “Партызанская” (выхад да універмага “Беларусь”);
2. Станцыя метро “Аўтазаводская”;
3. Станцыя метро “Якуба Коласа” (выхад да філармоніі);
4. Станцыя метро “Інстытут культуры” (выхад да Дома быта);
5. Уваход у крыты Камароўскі рынак;
6. Станцыя метро “Кастрычніцкая” (выхад да гастранома “Цэнтральны”;
7. Станцыя метро “Усход”;
8. Станцыя метро “Пушкінская”.

**Ініцыятыўная група.**

ЗДАРЭННЕ

## Кароткае замыканне

27 цялят загінулі падчас пажару, які здарыўся ў калгасе “Сцяг працы” Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці.

Прычынай пажару, паводле інфармацыі абласнога ўпраўлення Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, стала кароткае замыканне. У цялятніку па адкорме маладняку ў гэты час знаходзілася 50 цялят. Агонь распаўсюджваўся вельмі хутка, таму выратаваць удалося толькі частку статка.

**Павел МАЖЭЙКА.**

## ЛЮДИ “БЕЗ ДВОЙНОГО ДНА”

*Михаил МЯСНИКОВИЧ,* **глава Администрации президента Республики Беларусь:**

***“Люди, которые работают с президентом, люди честные, без двойного дна...”***
(“Рэзананс”, 15.07.2001 г.)

Не двойное, а тройное дно нужно иметь, чтобы, возглавляя в 1994 году избирательный штаб Кебича, тут же, после поражения патрона, перекинуться в команду Лукашенко, забыв о клятве верности Вячеславу Францевичу. У Михаила Мясниковича это получилось блестяще, а потому сейчас он имеет полное право утверждать, что “люди, которые работают с президентом, люди честные, без двойного дна...” Они как минимум — с тройным дном.



*Сколько раз в жизни Михаил Мясникович будет менять шляпы?*

**Фото IREX/ProMedia.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Владимир НАУМОВ искренен, но, кажется, не до конца

**Марина КОКТЫШ**

*Владимир НАУМОВ — единственный из всех министров силовых структур, который регулярно встречается с журналистами. После скандала с Валерием Щукиным (который, напомним, отчаянно пытался попасть на пресс-конференцию в режимный объект — здание МВД, за что теперь вынужденно отбывает срок в Жодинском СИЗО), Наумов стал приходить в Национальный пресс-центр, куда, к счастью, пока пускают всех журналистов. С тех пор Владимир Владимирович, похоже, стал более демократичным и взял за правило отвечать на любые вопросы корреспондентов, какими бы острыми и неприятными лично ему они ни казались. Вот о чем спрашивали министра на последней пресс-конференции.*

**— Владимир Владимирович, литовская газета “Диена” со ссылкой на следователей прокуратуры Случека и Петрушкевича сообщила, что якобы Вы регулярно посещаете в СИЗО КГБ заключенных Игнатовича и Малика, обвиняемых в похищении оператора ОРТ Дмитрия Завадского. О чем говорится во время данных встреч — неизвестно. Однако, по мнению следователей, этих осужденных могут незаконно освободить после оглашения приговора...**

— Я с ними не встречался. К тому же я посещаю не только следственный изолятор, в котором находятся эти подследственные. Я все СИЗО посещаю, потому как они находятся в компетенции МВД. С этими заключенными, повторяю, не встречался.

Приговор им будет выносить суд. Дело Завадского, как известно, уже расследовано и передано в суд. Эта группа обвиняется в похищении оператора ОРТ. Только в похищении, потому что улик и доказательств, связанных с какими-то их дальнейшими действиями, следствием не собрано. Суд сейчас знакомится с делом. Я обратился к главе государства, чтобы, в случае, если заседание будет закрытым (а некоторые свидетели на этом настаивают), в суде обязательно присутствовали представители ОРТ, какой-нибудь другой общественной организации и представители американского посольства. Нельзя, наверное, будет вести видеосъемку, разглашать свидетельскую базу, но сам судебный процесс обязательно будет под контролем. И, видимо, потом они как-то доведут до широкой общественности, насколько объективно расследовалось дело и насколько собранные доказательства вины этих людей соответствуют предъявляемым обвинениям. Я скажу так: если в судебном заседании не будет доказана их вина, конечно же, суд вынесет какое-то решение. Но, как вы понимаете, я или кто-то из других структур на судебное заседание повлиять не смогут.

**— У следствия имеются какие-то наработки о возможном местонахождении Завадского? О каких документах недавно говорил президент, будто бы подтверждающих, что Дима жив?**



**Фото IREX/ProMedia.**

— Я не скажу, что есть такие документы. Думаю, и президент не мог так сказать. Собраны улики, которые, мы считаем, подтверждают, что Дмитрия Завадского похитила эта группа. Сказать однозначно, жив он или нет, не могу. Была информация из Дагестана, что Дима жив, но она не подтвердилась.

Суду на изучение дела дается не более двух месяцев. Что касается лично меня, то судебное разбирательство подтвердит мою профпригодность. И как милиционера, и как министра.

Несмотря на различные сбросы информации, существует ряд экспертиз и свидетельских показаний, которые оглашать нельзя. Пусть потом представители ОРТ, которым будет разрешено присутствовать на процессе, расскажут, насколько все было объективно.

**— В средствах массовой информации прошла информация о том, что при странных обстоятельствах скончались два оперативника, занимавшиеся раскрытием дел, связанных с исчезновением известных людей...**

— Для меня это больной вопрос. Я очень хорошо знал и относился к ныне покойному Владимиру Евгеньевичу Французову. Длительное время работал с ним. Он был на службе в Комитете по организованной преступности, я — в спецподразделении по борьбе с терроризмом “Алмаз”. Мы дружили. И такие вот обвинения я воспринимаю как личное оскорбление. Служебное расследование не проводилось, потому что есть заключение медицинской экспертизы. Могу сказать, что последние три года Французов болел.

**— Он участвовал в расследовании дела по Завадскому?**

— Да.

**— Следователи Случек и Петрушкевич утверждают, что все охранники А.Лукашенко прошли подготовку в Чечне. Вы долгое время возглавляли Службу безопасности президента. Так это или нет? И что все-таки делал в Чечне Валерий Игнатович, согласно материалам дела? Есть расхождения между тем, что говорят заместитель Генерального прокурора Снегирь и начальник следственной группы Бранчель. Один утверждает, что Игнатович воевал на стороне чеченцев, другой — на стороне россиян.**

— Охранники президента никогда не проходили подготовку в Чечне. Наше законодательство запрещает использовать в любом другом регионе сотрудников, которые находятся на действительной службе.

Что касается Игнатовича — перед следствием не стояло задачи выяснить, что он там делал. Мы собирали улики о тех преступлениях, которые он совершил на территории Беларуси.

**— Но ведь главный мотив следствия, как следует из заявлений Бранчеля и Снегиря, что Игнатович отомстил Завадскому именно за репортаж о Чечне...**

— Этот мотив как бы так и остается основным. Но выезжать в Чечню и выяснять, на чьей стороне он там неоднократно бывая выступал, — такой задачи не было. Не исключаю, что каждый раз при своих поездках он выступал в разных ипостасях.

**— В качестве кого по материалам дела проходит командир специального отряда быстрого реагирования Дмитрий Павлюченко?**

— По данному уголовному делу Павлюченко никак не проходит. Даже близко. Другой вопрос, что в прессе критике подвергались все спецподразделения: мол, это от них все идет. Тут ничего нового. В свое время много писали об “Алмазе”, потом перешли к СОБРу...

*(Окончание на 3-й стр.)*

Народная Воля 17 ЛІПЕНЯ 2001 г.

БОЛЬ

# Прошу о милостыне – не обессудьте...

**Главному редактору газеты "Народная воля" Иосифу Середичу**

*Уважаемый Иосиф Павлович! Я — постоянный подписчик Вашей газеты, она для меня — луч света, тепла, правды, справедливости. Через газету я хочу обратиться с просьбой о помощи к председателю Рады БНФ Ивонке Сурвилле. Она живет далеко, в Канаде, но знает о нашей беде, в которой оказались большинство соотечественников.*

*Не обессудьте — иного выхода я не вижу. В своей стране обратиться за поддержкой не к кому. Прошу Вас, Иосиф Павлович, донести крик моей души до белорусской женщины за океаном, которая, надеюсь, отзовется на мою боль.*

Уважаемая госпожа Ивонка Сурвилла!

Простите, что потревожу Вас своим письмом. Мы незнакомы, но я знаю о Вас по "Народной воле" и верю, что Вы всей душой болеете за свою Батьковщину — Беларусь. Обратиться к Вам меня принудили крайние обстоятельства и глубокое отчаяние, которое все больше охватывает меня.

В нашей стране тяжело всем. Нас не видят и не слышат (хотя власти разглагольствуют об обратном). Особенно это касается беспомощных стариков, инвалидов, одиноких. Я сама инвалид II группы, мне 74 года. Муж, инвалид Отечественной войны I группы, недавно умер. 50-летний сын — ликвидатор аварии на Чернобыльской АЭС — тяжело болен. Работать он не может, а пенсии нет. Наша медицина, сама беспомощная, больным помочь не в состоянии.

Средств на лечение, а то и на простые пропитание не хватает. Деньги, что по копеечке, отрывая от расходов на самое необходимое, мы копили в государственном сбербанке на случай похорон, государство нам не отдало. (Непонятно, почему, ограбившее весь народ, оно такое бедное?). Все, что только можно было и даже нельзя, мы продали, а долги все растут и растут. Жить просто невозможно. Вот я и решилась на отчаянный шаг — поймите и простите меня — просить через Вас о милостыне. Я знаю, что возможности у Вас невелики, но, может, земляки-белорусы за океаном услышат меня и, чем могут, вскладчину помогут моей семье, как не раз отзывались и помогали жертвам Чернобыля?

Может вполне случиться, что меня скоро не станет на этом свете. Молю, не оставьте своей великодушной милостью моего сына Игоря Фомича Харитоненко — одинокого, беспомощного, без здоровья и средств к существованию.

Молюсь за сына перед Господом. Молюсь перед ним за Вас, дорогая Ивонка. Желаю Вам и Вашим дочерям, своим землякам за рубежом, всем людям Земли счастья и благополучия. И да поможет Вам всем Бог в добрых, гуманных делах.

**С уважением — София Исаковна ХАРИТОНЕНКО, пенсионерка.**

**г.Гомель.**

Адрес моего сына такой:
**246018, Республика Беларусь, г.Гомель, ул.Якуба Коласа, д.25, кв.7.**

**От редакции.** *Дорогая София Исаковна! Примите глубокое сочувствие Вашему горю. К сожалению, как Вы верно замечаете, в тяжелом положении оказались многие люди в нашей стране.*

*Публикуя Ваше письмо к уважаемой Ивонке Сурвилле, мы не знаем наверняка, найдутся ли у нее и у наших земляков за океаном реальные возможности поддержать Вас материально. Но мы хотели бы обратиться к тем гражданам Беларуси, которые могли бы такие возможности изыскать — например, к предпринимателям. Конечно, если у них есть сердце, а в нем — сочувствие чужому горю. Просим вас: кто может, помогите семье Харитоненко!*

ПАЗІЦЫЯ

# Удзел у выбарах З.Пазьняка – гэта форма палітычнай барацьбы за Беларусь

Не магу пагадзіцца з прапановай Алеся Сіліча Зянону Пазьняку зняць сваю кандыдатуру з выбараў ("Народная воля", №116 ад 27.06.2001 г.). Фармальна спадар Сіліч, можа, у нечым і мае рацыю, але, на жаль, не ўлічвае ўсіх абставін закранутага пытання. Для гэтай прапановы яму нестае аб'ектыўнасці і доказаў, бо не зроблены аналіз і параўнанне ўсіх "за" і "супраць", карысці і шкоды такой прапановы. У сусвеце, у тым ліку і ў грамадскіх падзеях, дзейнічае агульны закон барацьбы процілегласцей, без разгляду якіх немагчыма знайсці і аб'ектыўна даказаць ісціну. Калі б З.Пазьняк паслухаўся А.Сіліча і зняў сваю кандыдатуру, то, можа стацца, нанёс бы свайму аўтарытэту і справе Беларусі большую шкоду, чым тады, калі б прайграў выбары. Аб гэтым А.Сіліч нічога не сказаў, але абысці такое пытанне нельга, бо народ на гэты раз канчаткова адвярнуўся б ад З.Пазьняка. Але і выбраўшы яшчэ раз А.Лукашэнку, зноў наступіў бы на тыя ж граблі і нанёс сам сабе вялікую шкоду. Магчымы пройгрыш на выбарах вялікай ганьбай для З.Пазьняка не стане, бо адмова зараз ад барацьбы найлепшага кандыдата ў прэзідэнты Беларусі можа аказацца большай ганьбай для знакамітага палітыка і сапраўдных патрыётаў Беларусі. Зняць сваю кандыдатуру ён не можа таму, што з усіх кандыдатаў — самы паслядоўны і адданы змагар за сапраўдную незалежнасць нашай краіны. Хто ж будзе бараніць Беларусь, калі "аб'яднаныя" кандыдаты ўжо выказаліся за захаванне "незалежнасці" ў рамках Саюза з Расіяй і не выступілі супраць такога саюза як пераходнага этапу да адзінай саюзнай дзяржавы. Раней гаварылі аб саюзе двух дзяржаў, і народ не заўважыў, як ужо гавораць аб агульнай саюзнай дзяржаве, падмяняючы адно паняцце зусім іншым. А ці ведаюць людзі, што агульная саюзная дзяржава з Расіяй супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь? У ёй захаванне незалежнасці Беларусі проста не магчымае і ўяўляе сабой падман беларускага народа. Саюзная дзяржава пры быццам бы захаванні незалежнасці Беларусі — прынада для такога падману недасведчаным людзям. Гэта сыр у мышалоўцы, у якую трапляюць мышы і жывымі з яе ўжо не выходзяць.

Удзел З.Пазьняка ў выбарах — не самамэта стаць прэзідэнтам. Адбудзецца так, як прагаласуе народ, калі не будзе фабрыкацый. А калі яны будуць учынены і бачна, што да гэтага ідзе, то стануць злачынствам і ганьбай для тых, хто гэтыя фабрыкацыі здзейсніць, і ў першую чаргу для таго, на чыю карысць яны будуць зроблены.

Удзел у выбарах З.Пазьняка — гэта форма палітычнай барацьбы за Беларусь і форма выхавання народа. Нельга пакінуць свой народ адзін на адзін з тымі, хто не можа і не здольны прынесці яму шчасця і падманвае, каб надалей захаваць уладу.

Успамінаю, як яшчэ ў школе, вывучаючы творчасць рускага пісьменніка Максіма Горкага, прачытаў яго навелу аб Данка. Гэта быў сапраўдны герой, які ахвяраваў сваё жыццё на карысць людзям. Каб вывесці іх з цемры і багны да лепшага жыцця і падтрымаць веру і надзею, ён вырваў з грудзей сваё палаючае сэрца і асвяціў ім шлях наперад да волі і шчасця, а сам загінуў за свой народ. Народ пайшоў далей, не заўважыўшы, што затаптаў свайго героя. Такім Данка для беларускага народа з'яўляецца зараз Зянон Пазьняк. Ці зразумее беларускі народ гэта, каб выйсці з цемры да светлага і вольнага жыцця?

Вось што прачытаў я ў газеце "Наша Ніва", №16 ад 25.06.2001 г. на старонцы 12:

"Галовы! Зянон Пазьняк — адзіная моц, якая можа раскідаць усіх прыхлябацеляў нацыі. Інтэлігентнасць і эрудыцыя — чыста еўрапейскія! Ад страху перад ім карытнікі чарнеюць тварам. Сіман".

Лепей не скажаш.

Паважаны Зянон Станіслававіч, не здымайце сваю кандыдатуру з выбараў. Шлях героя можа быць гаротным, і да гэтага трэба быць гатовым.

Жыве Беларусь!

**Марат ГІРКА. Мінск.**

**P.S.** *Ганарар — на падтрымку газеты.*

*На прыступках падземнага пераходу ў Мінску пажылы мужчына просіць дапамогі.*

**Фота IREX/ProMedia.**

ТВОРЧАСЦЬ ЧЫТАЧОЎ

# Атрымаў...

Забягае жвава Вася:
— Гэй! Ці вы жывыя?
Гэта ж сёння у калгасе
Плацяць "грабавыя"!

І бліна я не даеў,
Толькі ўсеўся снедаць,
Ды як вецер паляцеў
Я за Васем следам.

Бачу, ля калгаснай касы
Шмат ужо народу.
Чутка ўсцешная: адразу
Плацяць за паўгода.

Атрымаўшыя выходзяць,
Чарга падаецца.
Бачу: той, хто адыходзіць,
Плюне і смяецца...

Вось мая чарга прыйшла,
Суну нос у дзірку,
Але бачу: падала
Драбязу касірка...

Гэта ж гэтулькі стаяў
І чакаў цярпліва!
Ну, а грошай атрымаў
На бутэльку піва.

Дык навошта гэткі здзек
З тымі "грабавымі",
Не загіне чалавек
Ні без іх, ні з імі.

Не патрэбны нам яны,
Кіньце іх у печку.
На'т не купіш з іх труны,
Ні вянка, ні свечкі.

**Анатоль ГАРАЧОЎ, жыхар в.Даўнары Іўеўскага раёна.**

**На здымку:** *Яшчэ не вечар... (Надзея Варанецкая з вёскі Іслач Мінскага раёна).*

**Фота Марыі ВАЙЦЯШОНАК.**

ПО ПОВОДУ

# Удачна ли водная процедура?

Ну как было не радоваться: минские городские власти взяли курс на установку в жилых домах счетчиков на воду. Хватит уравниловки! А то платили раньше одинаково и бездумные транжиры не по щучьему велению подаваемой жильцам воды, и экономные, бережливые люди, понимающие что к чему.

Поставили счетчики и в нашем доме. Появилось новое занятие — звонить в управление "Водосбыт" производственного объединения "Минскводоканал", узнавать тариф на оплату их услуг.

Увы, не всегда вам готовы назвать эту изменчивую цифру, просят подождать. А ЖЭС (по крайней мере наш, №30, во Фрунзенском районе) ждать не намерен: требует от жильцов, чтобы они к 22 числу каждого месяца сообщали в ЖЭСовскую бухгалтерию, сколько ими уплачено за воду. Возникают неудобство и неразбериха. Квартиросъемщики вынуждены звонить, просить и умолять "Водосбыт" поспешить с предъявлением счета, а свой ЖЭС — не гнать лошадей с оплатой коммунальных услуг. К тому же, если в доме нет профессионального бухгалтера, а одни старики да инвалиды, вся эта заваруха со счетами-расчетами так на нервы им действует, что впору валерьянку или что покрепче принимать.

В общем, водная процедура получается пока не очень удачной. Хотя, понимаю, затейники идеи хотели как лучше. Вот и пусть постараются довести ее до логического конца, свести оплату коммунальных услуг к одному знаменателю.

**Яков ЛИФАНОВ, пенсионер. Минск.**

НОВАЯ ТРАДЫЦЫЯ

# З кветкамі – да святой Сафіі

Не толькі ў Слуцку раней было заведзена: пасля рэгістрацыі шлюбу ў гарадскім ЗАГСе маладыя пары неслі кветкі ў бліскучай абгортцы да помніка Леніну на цэнтральнай плошчы горада, фатаграфаваліся на памяць.

Летась у цэнтры горада, літаральна ў ста кроках ад помніка Ільічу, паўстаў бронзавы, ва ўвесь рост, помнік прасвятой нашай славутай зямлячцы — князёўне Сафіі Слуцкай. І цяпер маладыя шлюбныя пары кладуць букеты кветак ля яе падножжа. Усім сваім абліччам, поўным жаноцкай прыгажосці і мудрасці, з крыжам у правай руцэ святая Сафія бласлаўляе шчаслівы сямейны саюз маладых на доўгія гады.

**Міхась ТЫЧЫНА. г.Слуцк.**

# И ставлю на мрамор свечу...

Здравствуйте, уважаемая редакция газеты "Народая воля"!

Два года прошло после страшной трагедии в переходе станции метро "Немига". И хотя часто приходится читать и слышать о войнах, катастрофах, землетрясениях, многочисленных жертвах, для меня "Немига" — личная боль.

Я был на месте трагедии назавтра после того, как это случилось, и пережил потрясение. Написал стихотворение-плач "Вечер был, как и вчерашний вроде...", которое было опубликовано в ряде газет. В канун второй годовщины трагедии, я увидел на страницах вашей газеты фотографию памятника жертвам на Кальварийском кладбище. Памятник произвел на меня неизгладимое впечатление, и почти на одном дыхании родилось стихотворение "Невестушка", посвященное Машеньке Иньковой.

Я, как и многие бобруйчане, скорблю по погибшим, молюсь, поминаю их имена на службах в храмах. Бывая в столице, всегда спускаюсь в переход, в котором до сих пор висит на стене мое первое стихотворение... А "Невестушка" заканчивается так:

*...Я сердцем смиренным кричу,*
*К тебе, как к живой, прикасаюсь*
*И ставлю на мрамор свечу...*

**С уважением Валерий Игоревич ГАЙДУЧИК, житель г.Бобруйска.**

НАБОЛЕЛО

# Белорусы, не будьте дураками!

Уважаемая редакция!

Вот что случилось с нами совсем недавно. В феврале этого года наши семьи заключили контракт на трудоустройство наших мужей на территории соседки-России. Фирма ООО "Форссо", которая находится в Минске (ул.Железнодорожная, д.13, кв.7), взяла с каждого по 40 у.е. за посредническую услугу.

В течение двух месяцев наши мужья работали в г.Осташково Тверской области. В результате своей поистине рабской работы и жизни в невыносимых бытовых условиях они не получили ни единого рубля! Добирались на перекладных домой, получили настоящий психологический стресс. В общем, оказались полностью обманутыми. Заработали!

Хочется спросить у руководителей нашей страны: неужели в Беларуси нет работы нашим мужчинам с достойным заработком, чтобы они чувствовали себя кормильцами семьи, чтобы их не топтали и не унижали нищенскими зарплатами.

По радио и телевизору у нас все так хорошо. Но почему тогда тысячи трудоспособных мужиков едут в Россию на заработки, поднимают их экономику?! Что-то не видно россиян, приехавших за нашим белорусским "зайчиком". Нас все время пугают Западом, "капиталистическим рабством". А ведь дармовую рабочую силу из нашей страны выкачивает как раз Россия.

Хочется задать вопрос и Прокуратуре Республики Беларусь: как она реагирует на эти липовые посреднические фирмы, на то, что унижают и растаптывают нашу нацию — добрых и трудолюбивых людей?

Перед президентскими выборами очень уместен был бы содержательный ответ на эти вопросы.

Разве такое объединение с соседней державой нам нужно? Не будьте дураками, братки-белорусы, не продавайте свой труд за бесценок, не давайте себя обмануть.

**Л.СОРОКИНА, Т.МОЛАШКО, жители г.Молодечно; Г.СТАРОВОЙТОВА, П.МЕДВЕДЕВА, жители г.Сморгонь и другие.**

НАПЯРЭДАДНІ

# "Бусляняты" збіраюцца ў дарогу



Нядаўна ў Буда-Кашалёва, на адрас тэатра фальклору "Бераг белых буслоў" прыйшоў ліст з Германіі. А ў ім — запрашэнне таленавітым нашым дзеткам на паездку ў гэтую краіну, дзе яны будуць выступаць з канцэртамі і адпачываць, набірацца здароўя: яно аслаблена ў многіх, бо жывуць гэтыя дзеці на знявечанай чарнобыльскай зямлі.

А яны такія ж, як і ўсе дзеці ва ўсім свеце: хочуць радавацца сонцу, усміхацца сябрам, гарэзіць. Помню, як загарэліся яны і іх бацькі, калі мы пачалі ладзіць з імі, з дапамогай фонду "Дзецям Чарнобыля" Генадзя Грушавога фальклорны тэатр. Вось ужо трэці год як хлопчыкі і дзяўчынкі маленькага гарадка раскрываюць у ім свае яркія здольнасці, знаходзяць выйсце творчай энергіі, радуюць равеснікаў і старэйшых жыхароў цікавымі праграмамі. Яны насычаны вобразамі і мелодыямі роднага краю, старажытнымі народнымі абрадамі і гульнямі.

Мне цікава працаваць з гэтымі мілымі, адоранымі жэўжыкамі. А ім цікава збірацца разам, акунацца ў маляўнічы, святочны вір тэатра, ездзіць са сваімі выступамі па школах і клубах раёна. Юныя таленты з Буда-Кашалёва бралі ўдзел у фестывалі мастацтваў у Мінску, занялі ганаровае другое месца і атрымалі каштоўны падарунак. А наперадзе — далёкая дарога...

Разам са мной усёй сваёй шчодрай душой радуецца за дзятву іх добрая апякунка — руплівая і надзвычай сардэчная жанчына Валянціна Фёдараўна Смольнікава. Яна ўзначальвае ў Буда-Кашалёве маладзёжны цэнтр дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля", пры якім і працуе фальклорны тэатр. Яе ўсе тут ведаюць і любяць: як медыцынскага работніка, што лечыць не толькі таблеткамі ці мікстурамі, а і ласкавым словам, пяшчотным позіркам. А яшчэ як чалавека, улюбёнага ў сваю беларускую зямельку, родную мову, багатую спадчыну продкаў. Да ўсяго ёй ёсць справа: як жывуць шматдзетныя сем'і, інваліды і сіроты, у чым маюць патрэбу. І як пачуваюць сябе, як бавяць вольны час дзеці і падлеткі, якім часам так нестае чулай увагі старэйшых.

Гэтую невялікую ростам, рухавую блакітнавокую жанчыну відаць здалёк. Валянціна Фёдараўна вечна ў дарозе, вечна спяшаецца да людзей — то подбегам, то на веласіпедзе. Усе яе чакаюць, усім яна патрэбна — з разумнай парадай, дзейснай дапамогай. Без яе, безумоўна, не было б Маладзёжнага цэнтра, які здолеў стаць другім домам для юных будакашалёўцаў і згуртаваў вакол сябе шмат аднадумцаў і паплечнікаў Валянціны Фёдараўны. Дзякуючы іх агульным стараннем працуюць родныя гурткі, якія далучаюць іх удзельнікаў да беларускасці, сяброўства з добрымі людзьмі ўсяго свету. І не дзіўна, што пра іх даведаліся і нашы землякі-беларусы ў Амерыцы, дзейсна дапамаглі ў стварэнні фальклорнага тэатра.

Цяпер "буслянят" чакае сустрэча з нямецкімі сябрамі, яія, дарэчы, раней не раз прывозілі дабрачынныя гуманітарныя грузы-дарункі ў бальніцы, дзіцячыя ўстановы, сем'і састарэлых. І выдаткі на падарожжа юных артыстаў узялі на сябе.

— Будзем рады бачыць мастацтва вашых дзетак. Мы хочам, каб яны сябравалі з нашымі, каб заўсёды быў мір на зямлі, асветленай даверлівымі дзіцячымі ўсмешкамі, — сказаў прэзідэнт дабрачыннага дзіцячага фонду Германіі Георг Ціцын.

І "белыя буслы" з Беларусі панясуць на сваіх крылах дабро і дружбу на абсягі Еўропы...

**Мікола КОТАЎ, балетмайстар.**

**На здымку:** *"бусляняты" са сваімі мінскімі сябрамі.*

ДЗЯКУЙ!

# Я знайшоў, што шукаў

*Я вельмі ўдзячны "Народнай волі" за публікацыю майго допісу пад назвай "Шукаю душэўнага цяпла...".*

*Гэта дапамагло мне знайсці сабе прыемную сяброўку, з якой далей пайду па шляху свайго жыцця.*

**Браніслаў ПЯТКЕВІЧ. Полацкі раён.**

ПАМЯТЬ

# Всем смертям назло

Отец был скромный человек. О его партизанском подвиге я услышал не от него самого, а от его былых товарищей по отряду, которые стали свидетелями геройского поступка пулеметчика.

Было это весной 43-го под Кличевом, когда группу из их отряда послали в засаду к дороге, по которой должен был проследовать немецкий обоз с продовольствием и боеприпасами. Но получилось так (чего только на войне не бывает!), что партизаны сами попали в засаду. Возможно, противник запустил ложную информацию, а сам разместил в том месте хорошо замаскированные немалые силы.

Начался бой, неравный бой. Увидев, что есть угроза потери всей партизанской группы, командир дал сигнал отходить. Но отец беспрерывно поливал свинцом из своего вкопанного в землю "Максима" вражеские цепи и приказ этот не слышал... Он строчил и строчил, а когда кончились патроны, стал зашвыривать напиравших гитлеровцев гранатами. Да и не мог он двинуться с места: ноги были перебиты, пули прошили живую мишень во многих местах...

Боевые друзья, посланные, чтобы вынести с поля боя тело пулеметчика, были несказанно удивлены и обрадованы: отец оказался жив и даже в сознании, хотя истекал кровью. Жив всем смертям назло! Ему не могло даже прийти в голову, что он мог поступить иначе. Он сражался с нелюдями, которые пришли на его землю жечь, разорять, убивать. Они — до отца уже донеслась страшная весть — сожгли родной дом и двух сыновей (третьему, то есть мне, с сильными ожогами удалось все же спастись). И он бился до последнего, даже когда силы почти оставили его.

...Мой отец, Дмитрий Иванович Русаков (увы, его уже нет с нами более двадцати лет) родился и прожил всю жизнь в той же деревне Калинино, где и по сей день живет наша семья. С первых дней войны — на фронте. Во время тяжелейшей битвы за Смоленск попал в плен. Концлагерь. Побег. И как только на Кличевщине стали создаваться партизанские отряды, ушел в лес, был неразлучен со своим "Максимом"...

Домой вернулся инвалидом, с медалью "За Победу над фашистской Германией". Но отлеживаться не привелось. Дела в разоренном колхозе не шли на лад, и односельчане на общем собрании избрали председателем человека, которого хорошо знали и ценили за честность, порядочность и трудолюбие еще с довоенных пор. Люди отозвались на его просьбу собрать по хатам, кто сколько может, семян на посевную, стали восстанавливать фермы... Отец хотел, чтобы скорее все вокруг расцвело, заколосилось радостью в глазах земляков.

Когда укрупнили колхоз, его, беспартийного, перевели в бригадиры, а потом и в учетчики. Но отец был не в обиде, в любую работу вкладывал душу и сердце.

Однажды случилось несчастье — сгорела ферма. И председатель колхоза Крючков заявил, что никто, ни один человек ничего не получит на трудодни. Вместо наказания виновных всех обрек на голод. Отчаявшиеся сельчане решили направить ходока в Москву за справедливостью. И не к кому-нибудь, а к самому тогдашнему Председателю Президиума Верховного Совета СССР К.Ворошилову. А ходатаем выбрали самого авторитетного среди них — отца.

Это отдельная история, как он пробивался на прием, но разговор все же, как ни удивительно, состоялся! Может, подействовало то, что наш колхоз носил имя Ворошилова? Поначалу важный хозяин кабинета, выслушав рассказ отца, не поверил ему, сказал, что пошлет комиссию на проверку. Но, расспросив как следует, где и как он воевал, сказал неожиданное: "А ты все равно как Гастелло или Матросов — выполнил свой долг до конца. Только остался жив, выстоял и победил. Но как же ты живешь теперь, герой... Давай, присылай просьбу с пожеланиями, мы тебе поможем".

Хлопотать за себя перед начальством было не в характере отца. Никуда он так и не написал, ни на что не жаловался, до конца дней прозябая в бедности. Даже положенного инвалиду "Запорожца" не добился. Правда, через некоторое время после того визита отцу вручили орден Красной Звезды...

Никто никогда не написал, не рассказал публично об этом простом и негромком, отважном в бою и терпеливом в тяготах человеке. Я посчитал своим сыновним долгом сделать это. Это он, рядовой войны, вместе с миллионами и миллионами таких же защитников Отечества выиграл ту страшную битву, которую должны помнить мы и наши потомки не только в дни великих годовщин.

**Евгений РУСАКОВ, житель г.Бобруйска.**

Матэрыялы паласы падрыхтавала Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.

